# STUDENCKAJA DUMKA

ЧАСАПІСЬ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНА-СЬВЯДОМАГА СТУДЭНЦТВА

№ 9 1989 ЖНІВЕНЬ 1989 МЕНСК


## ПРАЕКТ ПРАГРАМЫ БЕЛАРУСКАЙ СТУДЭНЦКАЙ ГРАМАДЫ

СЯБРЫ !!!

Прайшло ўжо блізка тры месяцы пасьля зьмяшчэньня ў шостым нумары нашае часапісі праграмы /праект/ маючага ўтварыцца студэнцкага згуртаваньня. Атрымалі мы шэраг канструктыўных прапаноў і заўваг, за што мы гаворым шчырае дзякуй усім нашым актыўным чытачом. Асаблівую ласку маем да спадара Ігара Кручонка /праектыроўшчык, удзельнік групы падтрымкі Рады БНФ Цэнтральнага р-на м. Менска/, які свае слушныя прапановы зьвёў у досыць зграбную сыстэму. Ніжэй падаем дужа прынцыповую вынятку зь ягонага ліста адносна пытаньня, зададзенага ў тымжа 6-ым нумары "С.Д.": "Беларуская студэнцкая грамада — фэдэрацыя ці канфэдэрацыя ?" "Утварэньне арганізацыі беларускіх студэнтаў на падставе "канфэдэрацыі" лічу памылкай, бо гэта створыць пэўныя цяжкасьці для кансалідацыі студэнтаў

Ларыса ГЕНІЮШ

### Наш сьцяг

За жар душы, што набалела,
За сэрца зораны агонь,
Я, Божа, чуць хоць раз хацела б
Шум сьцягу вольнага свайго.

Калі Крывіцкая зямліца
Мне сэрца гордае зьвіе,
А польны вецер расшуміцца,
На расьвітаньне загяе, ~

Няхай разгорне сваё крыльле,
Як сторож вечнага жыцьця,
Хай зашуміць хоць на магіле
Мне бел-чырвона-белы сьцяг.

пад агульнай праграмай. У межах "канфэдэрацыі" паміж тымі ці іншымі згуртаваньнямі студэнтаў можа ўзьнікнуць нават ідэалягічная /і г.д./ барацьба. А ў наш час такога трэба пазьбегнуць, інакш студэнцкі рух разьяднаецца на суполкі і загіне сам сабой, яшчэ не нарадзіўшыся.

Аптымальным варыянтам студэнцкай арганізацыі лічу "Студэнцкую грамаду", у якую б уваходзілі студэнцкія суполкі на правох ФЭДЭРАЦЫІ. "Студэнцкая грамада" можа мець структуру, якая адпавядае будове Беларускага Народнага фронту. Найбольш пажаданым было б, каб "Студэнцкая грамада" ўваходзіла ў КАНФЭДЭРАЦЫЮ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК на правох самастойнага згуртаваньня, нароўні з "Талакой", "Тутэйшымі" ды іншымі..."

Як і раней, заклікаем усю зацікаўленую студэнцкую моладзь уключыцца ў абмеркаваньне праекту праграмы Беларускай студэнцкай грамады. Памятайма! Актыўнае спрычыненьне кожнага з нас да справы распрацоўкі праграмы ўжо зараз дазволіць сустрэць новы навучальны год з грунтоўна падрыхтаваным дакумантам. Вярнуўшыся пасьля летніх вакацыяў, моладзь мусе затым згуртавацца вакол гэтай праграмы. Прапановы, парады, заўвагі да праекту, а таксама свае ўласныя распрацоўкі праграмы просім дасылаць на адрас рэдакцыі. Нагадваем, што наш адрас падаецца на апошняй бачыне часапісі.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСКІ СТУДЭНЦКІ ПАТРЫЯТЫЧНЫ РУХ !!!

Рэдакцыйная суполка "Студэнцкае Думкі".

## АГУЛЬНЫЯ МЭТЫ ГРАМАДЫ

1. Грамада вядзе барацьбу за стварэньне праўнай дзяржавы;
2. Грамада садзейнічае барацьбе за стварэньне на тэрыторыі Беларусі экалягічна чыстае, бязьядзернае зоны;
3. Грамада змагаецца за адраджэньне суладных міжнацыянальных узаемадачыненьняў на падставе прыярытэтнасьці нацыянальнай мовы карэннага насельніцтва рэспублікі;
4. Грамада садзейнічае барацьбе за дасягненьне рэальнага сувэрэнітэту Беларусі;
5. Грамада змагаецца за ліквідацыю . аднапартыйнай сыстэмы ў грамадскім жыцьці Рэспублікі.

## АСНОЎНЫЯ ЗАДАЧЫ СТУДЭНЦКАЙ ГРАМАДЫ

1. Аўтаномія ВНУ і самакіраваньне;
2. Забесьпячэньне палітычначнага волявыяўленьня студэнцтва на прынцыпах палітычнага плюралізму;
3. Спэцыялізацыя навучаньня ў ВНУ;
4. Дэідэалягізацыя навучаньня ў ВНУ;
5. Забесьпячэньне нацыянальнага раўнапраўя студэнтаў;
6. Дэмілітарызацыя навучаньня ў ВНУ;
7. Забесьпячэньне матар'яльных патрабаваньняў студэнтаў і дэмакратызацыя адміністрацыйнай сыстэмы ВНУ.

## І. АЎТАНОМІЯ ВНУ І САМАКІРАВАНЬНЕ

1. Экстэрытарыяльнасьць ВНУ /палітыка-юрыдычны статус/.

а/ Падразьдзяленьням міліцыі /паліцыі/ і войскаў забараняецца знаходзіцца на тэрыторыі ВНУ без дазволу рады ВНУ;
б/ на тэрыторыі ВНУ мітынгі і сходы адбываюцца з паведамленьнем толькі рады ВНУ;
в/ магчымасьць вольнага, бесцэнзурнага выданьня і распаўсюджваньня на тэрыторыі ВНУ ўласных друкаваных выданьняў тых ці іншых арганізацыяў — сяброў Беларускай студэнцкай грамады.

2. Самакіраваньне ВНУ.

а/ Выбо[illegible]ласьць усіх органаў самакіраваньня ўнутры ВНУ;
б/ прадстаўніцтва студэнтаў у складзе органаў унутранага самакіраваньня ня менш за 75 адсоткаў агульнага складу;
в/ рэктар, прарэктары, дэканы і загадчыкі катэдраў абіраюцца па прадстаўле[illegible]ні катэдраў студэнцка-выкладчыцкімі канфэрэнцыямі і перыядычна трымаюць перад імі справаздачы.

3. Аутаномія ВНУ.
а/ Пляны набору студэнтаў ВНУ выпрацоўвае самастойна паводле рэкамэндацыяў адпаведных ведамстваў і ўстановаў, зацікаўленых у атрыманьні кваліфікаваных кадраў;
б/ навучальныя пляны і праграмы ВНУ выпрацоўвае самастойна паводле рэкамэндацыяў адпаведных ведамстваў і установаў;
в/ распрацаваныя навучальныя пляны і праграмы зацьвярджаюцца органамі ўнутранага самакіраваньня ВНУ.

## 2. ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ ПАЛІТЫЧНАГА ВОЛЕВЫЯЎЛЕНЬНЯ СТУДЭНЦТВА НА ПРЫНЦЫПАХ ПАЛІТЫЧНАГА ПЛЮРАЛІЗМУ

а/ Вылучэньне ўласных кандыдатаў на выбарах у мясцовыя і вярхоўныя органы ўлады.

## 3. СПЭЦЫЯЛІЗАЦЫЯ НАВУЧАНЬНЯ Ў ВНУ

а/ Узнаўленьне статусу "вольнага слухача" з правам вольнага наведваньня лекцыяў;
б/ скасаваньне сэмэстровай сыстэмы навучаньня;
в/ магчымасьць выбарнасьці выкладчыкаў для навучаньня;
г/ ліквідацыя абавязковага выкладаньня няпрофільных /агульнаадукацыйных/ прадметаў у ВНУ[1];
д/ павелічэньне часу на выкладаньне прадметаў па непасрэднай спэцыяльнасьці;
е/ ліквідацыя "завочнай" формы навучаньня у ВНУ[2];
ж/ ліквідацыя абавязковага выкладаньня замежных моваў[3].

## 4. ДЭІДЭАЛЯГІЗАЦЫЯ НАВУЧАНЬНЯ Ў ВНУ

а/ Адмена выкладаньня у ВНУ "грамадзкіх" дысцыплінаў /гісторыі КПСС, палітэканоміі, навуковага камунізму і інш./;
б/ узамен гэтага ўвесьці выкладаньне прадмета "паліталёгія", які быў бы пазбаўлены ідэалягічнай афарбоўкі[4];
в/ адмена выкладаньня прадмета "навуковы атэізм"[5];
г/ навуковы камунізм, гісторыя КПСС, атэізм і інш. нароўні з рэлігійным выхаваньнем павінны выкладацца у ВНУ як факультатывы/па жаданьні студэнтаў/

## 5. ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА РАЎНАПРАЎЯ СТУДЭНТАЎ

а/ Юрыдычна-праўнае забесьпячэньне студэнтаў магчымасьцю праходзіць навучаньне па ўсіх прадметах /у тым ліку тэхнічных/ на дзяржаўнай мове — беларускай, альбо на мове міжрэспубліканскіх зносінаў — расейскай[6].

## 6. ДЭМІЛІТАРЫЗАЦЫЯ НАВУЧАНЬНЯ Ў ВНУ

а/ Вольнае наведваньне заняткаў на вайсковых катэдрах студэнтамі,якія адбылі тэрміновую вайсковую службу;
б/ пры знаходжаньні студэнта ў акадэмічным адпачынку ня больш чым адзін год ён ня можа быць пакліканы на тэрміновую вайсковую службу[7];
в/ на студэнтаў, якія праходзяць вайсковае навучаньне, вайсковы статут распаўсюджваецца толькі на час заняткаў на вайсковых катэдрах, збораў і г.д.[8];
г/ выпускнікі ВНУ, дзе адсутнічалі вайсковыя катэдры, праходзяць тэрміновую службу па вайсковае спэцыяльнасьці, якая адпавядае грамадзянскай, атрыманай у ВНУ, альбо памагчымасьці набліжана да яе. Кантроль за гэтым вядзецца вайсковай радай ВНУ[9];
д/ студэнтаў, якія пад час акадэмічнага адпачынку пакліканыя ў войска в о с е н ь н ю , павінны дэмабілізоўвацца да I верасьня;
е/ студэнты, якія маюць радзіму /сям'ю/ І прызываюцца пад час акадэмічнага адпачынку ў войска, праходзяць службу толькі н а т э р ы т о р ы і Р э с п у б л і к і;
ж/ адмена вайсковай павіннасьці для жанчын-мэдыкаў і студэнтак мэдыцынскіх ВНУ[10];
з/ замена службы ў войску працоўнай павіннасьцю для асобаў, якія з рэлігійных перакананьняў ня могуць адбываць службу ў войску альбо трымаць у руках зброю.

## 7. ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ МАТАР'ЯЛЬНЫХ ПАТРАБАВАНЬНЯЎ

## СТУДЭНТАЎ І ДЭМАКРАТЫЗАЦЫЯ АДМІНІСТРАЦЫЙНАЙ СЫСТЭМЫ ВНУ

а/ Дэмакратызацыя прапусковай сыстэмы ў студэнцкіх інтэрнатах;
б/ забесьпячэньне кожнага студэнта стыпэндыяй, якая адпавядала б суме пражытковага мінімуму;
в/ забесьпячэньне жыльлём кожнага студэнта, які ў гэтым мае патрэбу;
г/ кантроль рады факультэту над разьмеркаваньнем стыпэндыяў, жыльля, а таксама разьмеркаваньнем на працу пасьля сканчэньня ВНУ;
д/ адмена прымусовага разьмеркаваньня выпускнікоў інстытутаў пасьля сканчэньня навучаньня;
е/ аплочваньне любой працы студэнтаў;
ж/ ліквідацыя прымусовага ўдзелу студэнтаў у працах, мерапрыемствах, не зьвязаных непасрэдна з вывучэньнем спэцыяльнасьці /сельскагаспадарчыя працы, ДНД, суботнікі і г.д./;
з/ усталяваньне круглагодзяага льготнага праезду на ўсе кшталты транспарту ў рэспубліцы.

---

1 Такую пастанову пытаньня падтрымалі ня толькі б студэнты, але і выкладчыкі профільных прадметаў.

2 Завочную форму навучаньня ўвогуле нельга назваць навучаньнем, бо добрых спэцыялістаў з "завочнікаў" не атрымліваецца.

3 Выкладаньне замежных моваў не садзейнічае сапраўднаму авалодваньню імі і толькі адбірае лішні час у больш неабходных прадметаў.

4 Прадмет "паліталёгія" ў якасьці экспэрымэнту уведзены ў ВНУ Эстоніі.

5 У сувязі з тым, што н а в у к о в ы м атэізм быць ня можа і ніколі такім ня быў, дык навошта выкладаць ілжэнавуку?

6 Напрыклад, у студэнцкай групе — 20 чалавек. Зь іх толькі трое выказалі жаданьне навучацца на дзяржаўнай мове — беларускай, астатнія — на рускай. Усё роўна для гэтых траіх студэнтаў павінны быць створаны ўсе умовы /нават асобныя выкладчыкі, спэцыяльныя падручнікі і г.д./.

7 Акадэмічны адпачынак можа расьцягнуцца на няпэўны пэрыяд /2 і больш гадоў/; у такім разе гэткі "студэнт" зможа навогул ухіляцца ад вайсковай службы.

8 Нашэньне ўніформы, стрыжак і г.д. ліквідуецца. Студэнты забясьпечваюцца ўніформай толькі пад час вайсковых збораў, трэніровак.

9 У першым варыянце: "...у войску працуюць/? — І.К./ непасрэдна па сваёй спэцыяльнасьці." Па-першае, у войску не працуюць, а служаць, а па-другое, калі студэнт атрымаў адукацыю тавараназнаўцы ці актора? — у войску такіх спэцыяльнасьцяў у тэрміновай службе няма.

10 На сустрэчы з выбаршчыкамі ў Палацы культуры будтрэста № І кандыдат у народныя дэпутаты Ул.Ул.Палішчук /гал. лекар І-й клінічнай лякарні/ на маё пытаньне пра неабходнасьць такой рэформы адказаў, што калі жанчын-мэдыкаў пазбавіць вайсковай павіннасьці, дык, маўляў, ня будзе каму працаваць пад час катастрофаў ці катаклізмаў, у прыватнасьці — ў Чарнобылі.
Пункт "в/" у першым варыянце — нерэальны, заўчасны; падобныя патрабаваньні ў цяперашні час узьнімаць ня варта.

Праект запрапанаваны Кручонкам Ігарам. 7.08.89 г. м. Менск

**P.S.** Наагул станоўча ацэньваючы запрапанаваны спадаром Ігарам Кручонкам праект, лічым неабходным акрэсьліць, на наш погляд, ягоныя слабыя бакі. Будзем дужа ўдзячныя калі нехта з нашых чытачоў ці сам спадар Кручонак дашле допіс з адказам на наступныя пытаньні, што ўзьніклі пасьля азнаямленьня з вышэйпададзеным праектам праграмы Беларускай студэнцкай грамады:
1. А што з агульнаю культурай, мовай, экалёгіяй?
2. А ці ня лепей удасканаліць мэтодыкі навучаньня замежным мовам? Мы ж цывілізаваныя людзі?
3. А як з ВНУ, што рыхтуюць гуманітарыяў? Яны абавязаны вучыцца на беларускай мове. Або мэдыкі? Як ім працаваць з хворымі, не валодаючы бел. мовай.

# КУПАЛА Й КАТАЛІЦЫЗМ



*Кіневіч*

Друкуецца паводле —
"ВЕРА" Беларускі Каталіцкі часопіс /Менск — Смаленск/, № I, 1988г.

Геніяльны беларускі паэта Янка Купала нарадзіўся ў каталіцкай радзіне і выхоўваўся ў каталіцкай хаце. Бацькі ягоныя Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч і Бянігна Янаўна Луцэвіч з роду Валасевічаў паходзілі зь беларускае шляхты і цьвёрда трымаліся бацькоўскае каталіцкае веры. Маленькага Яся хрысьцілі ў Радашкавіцкім касьцеле/нажаль, там няма ніякай пазнакі пра гэта/. Уражлівая душа хлопчыка ня раз, мусіць, замірала ад радасьці пры гуках касьцельных арганаў і сьпеваў. Яны абуджалі ягоную фантазію, любоў да прыгожага, спрыялі гарманічнаму, паэтычнаму ўспрыняцьцю сьвету. Жывучы ў Пецярбурзе ў 10-х гадох нашага стагодзьдзя, Купала сябраваў зь беларусамі-навучэнцамі Пецярбургскай каталіцкай акадэміі, якія выношвалі думкі несьці слова народу ў яго роднай мове. Купала чытаў і вельмі цікавіўся першай беларускай каталіцкай газэтай "Беларус". Ён быў глыбока перакананы ў карысьці каталіцкага друку ў беларускай мове. Перапісваючыся з Б.Эпімах-Шыпілам, выкладчыкам Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі, Купала прасіў: "Будзьце ласкавы, купляйце для мяне і перасылайце "Беларуса"." Адным зь лепшых сяброў Купалы быў ксёндз Астрамовіч, які пісаў вершы пад псэўданімам Андрэя Зязюлі. Зноў у лісьце да Б.Эпімах-Шыпілы з Акопаў, што на Лагойшчыне, у чэрвені 1912г. Купала паведамляў: "На днях маюся зьезьдзіць да кс. Астрамовіча, а стуль, пагасьціўшы трохі дома, усё-такі пастараюся быць у Вільні". У 1920г. беларускі ксёндз Абрантовіч, адзін зь лідэраў Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі, даглядаў Купалу, дзяжурыў начамі каля яго ложку, у часе цяжкай хваробы паэта. Пра гэта піша сам Купала: "На дабітку ўсяго, у 1920г., у студзені, я захварэў страшнай хваробай: гнойнае запаленьне сьляпой кішкі. Праляжаў у лякарні, змагаючыся са сьмерцю, тры месяцы і выйшаў з пакрыўленай губой і з надломленым зусім здароўем. Папраўдзе пабываў на тым сьвеце. Толькі дзякуючы добрай апецы, асабліва ксяндзу-рэктару Менскай духоўнай сэмінарыі Абрантовічу, я не пайшоў да Абрагама на піва." Яшчэ перад гэтым, 23 студзеня 1916г., далёка ад Беларусі, у Маскоўскім Петрапаўлаўскім касьцеле Янка Купала ўзяў шлюб з Уладзіславай Станкевіч. Варункі жыцьця ў 20-30-х гадох не давалі магчымасьці Купалу праўдзіва адбіць свае адносіны з рэлігіяй.

У перадрэвалюцыйнай ягонай творчасьці рэлігійныя матывы, стасункі простага чалавека і веры займалі вялікае месца. Купала ня раз падкрэсьліваў, што талент, які ён мае, гэта Божы дар: "Буду пець, бо мне дар гэты Богам пасланы"/Адпаведзь/.Дар гэты дадзены Богам, каб служыць людзям, беларускаму народу:

Я нясу вам дар
Братніх скіб і сялiб
Шумных сосен і ліп
Божы дар, сэрца дар.

Паэта верыць у стварэньне нашага сьвету ад ласкі Божай:

Божа! Гэткі сьвет тут
Моц стварыла твая
/Над сваёй Айчынай/.
Усяк ёй жылося
На сьвеце на Божым
/Бабулька прадаўчыца зёлак/.

Купала адкрыта зьвяртаецца да Бога, калі размова заходзіць не пра асабістыя крыўды й згрызоты, а пра лёс, будучыню беларускага народу. Верш тады яго пераходзіць у шчырую малітву:

О Божа Праведны, Ты сілу
Сваю вялікую акажы:
Ня зьгінуць з Бацькаўшчыны мілай
Свайму слузе дапамажы.

Сашлі мне сьветлую пацмогу
Астаткі сіл сваіх аддаць
І — не зрабіўшы брату злога —
Пад крыжам бацькавым сканаць.
/Прыстаў я жыць.../

Купала гатовы ўсяго сябе аддаць Богу, прысьвяціць сваё жыцьцё Усявышняй справядлівасьці, каб бачыць свой край вольным і незалежным:

Я буду маліцца і сэрцам і думамі,
Расьпятаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі зь мяцеліцаў шумамі
Ужо больш не шалелі над роднай зямлёй.
/Мая Малітва/.

Купала ўпэўнены ў духоўнай сіле адраджэньня беларускага народа. І самое адраджэньне ён уяўляе як касьцельны гімн-малітву цэлай нацыі, якая пакуль што мае сіроцкую долю:

Мы роўную песьню б запелі.
Запелі б так шчыра, балесна,
А гулка сіроцкая песьня
Па сьвеце нясецца з трывогай.

Мы пелі б, маліліся б сьмела,
Каб наша малітва ўзьляцела
Аж там, аж пад небам, да Бога!
/Зь сіроцкай долі/.

Надзвычай важнае значэньне для беларусаў мела першае друкаванае пэрыядычнае слова, бо гэта быў вялікі пачатак вялікай справы адраджэньня народа. Купала, прысьвяціўшы верш "Нашай Долі", надае гэтаму факту момант сьвятасьці, Боскасьці:

Прывітайма "Долю",
Як анёла Бога зь неба,
Як сьвятую волю!
/Нашай Долі/.

Зямлю, на якой працавалі сяляне, Купала разумеў у народнай традыцыі, як Божы дар:

Поле маё, поле!
Ты мне дарам Божым...

Згодна зь евангельскімі прынцыпамі сацыяльнае справядлівасьці Купала не стамляецца нагадаць пра тое, што зямлю сялянам даў не чыноўнік альбо пан, але Бог, і сяляне маюць на яе вышэйшыя за любыя людзкія — Боскія правы:

Што ты сьпіш, што ты сьпіш,
Беларускі мужык?
Глянь! Усталі усе,
Як сьвет Божы вялік!...
Няхай здымуць з цябе
Чынш, падаткі, налог,
Бо бясплатна для нас
Даў зямлю гэту Бог!
/Што ты сьпіш/

Хоць нам гэту зямлю-матку
Бог бясплатна даравяў
І плаціць чыноў, падаткаў
За яе нам не казаў...
/Ах, ці доўга/

Купала, апісваючы працу сялянаў у полі, паказвае зьнітаванасьць такога ад казнага моманту ў сялянскім жыцьці, як сяўба, з Боскай апекай, бо ўсё жывое на гэтым сьвеце ад Бога:

Тут кожны сяўца, хто набача,
Стары, ці малады, ці кабета,
— Радзі, памажы, Божа! — кажа,
А лёгка ж на сэрцы чуць гэта!
— Радзі, памажы, Божа! — скажам
І мы сяўцам усякага роду,
А зь зерня, што добрага севу,
Зьбяруць яны й добру ўроду. /Сявец/

/працяг на 15 бачыне/

# МАТАР'ЯЛЫ ДА БЕЛАРУСКАГА ІМЕНЬНІКА



АЛЬГЕРД ПАКАЛЮБІЧ

/пачатак у нумарох 7 і 8/

## мужчынскія імёны

... В ...

1. ВАЖГIНТ - Т.

Важка, Важуль, ГIнтась, Важук, Важчук, Важ, ГIнташ, Важар.

2. ВАЙДОТ - сын вялIкага князя Кейстута.

Вайдась, Вайдук, Вайдар, ВайдзIла, Вайдаш.

3. ВАЛАДАР - вялIкI князь полацкI.

Дарця, Уладзя, Дарук, Дораш, Волька, Вольдар, Вольдаш, Дар.

4. ВАЛЕНТА /ЦI/ - С.С.65г.

5. ВАСIЛЬ - паўстанец ХУП ст. Васіль Вашчыла.

ВасIлёк, ВасIлька.

6. ВАЦIСЛАЎ - Завейка, легендарны заснавальнIк Ваўкавыску.
Славук; гл.Вацлава.

7. ВАЦЛАЎ - ЛастоўскI, грамадзкI ды культурны дзеяч ХХ ст.
- БаршчэўскI, 1632 г. /У.А.75г./

Ваця, Вацюк, Вацусь, Вацюш, Вацаш.

8. ВАШЧАБОР - Б.А.69г.

Вацюк, Вацук, Вашчук, Вяшчун, Вешча, ВацIла, Вашчыла.

9. ВЕЖА - легендарны волат-чараўнIк;
- Б.А.69г.;
- персанаж "Каласоў..." У.КараткевIча.

Вежка, Вежась, Вяжур, Вежар, Вежур, Вежань.

10. ВЕНЦЛАЎ - толькI на Гарадзеншчыне ды Берасцейшчыне зафIксаванае ў ХУI-ХУШ ст.ст. 23 разы.
- ВаўковIч, 1556г.;
- Акгрыпа, 1636г. /У.А.75г./

Венка, Венась, Венусь, Вянук, Венар, Вен/а/, Венча, Венаш.

11. ВЕРАС - Т.; Б.А.69г.

Верасок, Верусь, Верук, Верча, Вера, Верачь, Верны, Вераш.

12. ВЕРБАШ - Б.А.69г.

Вербась, Вярбук, Вербар, Вербат, Вербань; гл.Верас.

13. ВIГАНД - сын вялIкага князя Альгерда.

ВIгась, ВIжук, ВIжань, ВIжар, ВIгаш, ВIгань.

14. ВIДЗЕБОР - Т..

ВIдзя, ВIдась, ВIдусь, Борусь, ВIдук, ВIдзь, ВIдаш, ВIдзянь.

15. ВІЗГАРД – Т. гл. Вежу і Віганда.

16. ВІЛІМ – рэканструяванае па сьпісе беларускіх прозьвішчаў /СБП/.
Вілько/-ка/, Вілась, Вялук, Вілар, Віль, Віліт, Вілаш, Вільча.

17. ВІНГАЛЬД – першае імя князя Андрэя Полацкага.
Вінгась, Вінук, Вінча, Галь/д/, Вінаш, Гальдаш.

18. ВІНЦЭНТ – Матушэвіч, 1696г.;
-Вінцэнт Орда, 167?г. /У.А.75г./
-Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, пачынальнік новай беларускай літаратуры XIX ст.;
-В.Адважны, паэт пач.XX ст.
Вінцэсь, Вінцук, Вінчак, Вінаш.

19. ВІР – Б.А.69г.;
- навагрудзкі мніх XУІ ст.
Вірця, Вірук, Вірчук, Вірча, Віргла.

20. ВІТ – у XУІ ст. узгадваецца 7 разоў.
- Віт Масевіч, 1528г.;
- Віт Пацэвіч, 1528г. /Б.А.66г./
Вітошка, Вітка, Віташ.

21. ВІТАЖЭНЕЦ – псеўдэнім Кастуся Каліноўскага.
Вітушка, Вітажук, Вітажэнь, Вітаж.

22. ВІТАЎТ – кароль Вялікага княства Літоўскага; пры ім нашая дзяржава дасягнула вышэйшага культурна-эканамічнага росквіту і палітычнага аўтарытэту.
Вітась, Вітка, Вітунь, Вітук, Віт, Віташ.

23. ВІЦЕНЬ – князь Вялікага княства Літоўскага, творца "Пагоні" – беларускага гербу. гл.Вітаўта.

24. ВІШЫМУТ – з Булевічаў, роду князёў літоўскіх на правым беразе верхняй плыні Дняпра /БелСЭ/.
гл.Вышаслава.

25. ВОЙНА /ВОЙМІР, ВОЙБАР/ – Юрэвіч ды Мастыка, баяры, XУІ ст. /Б.А.66г./;
- пэрсанаж "Каласоў..." У.Караткевіча.
Воясь, Воюсь, Войка, Вайчук, Ваяр, Воюш.

26. ВОЙСЛАЎ /ВАЙНІСЛАЎ/ – Савіч-Заблоцкі, паэт XIX ст.
Славук; гл.Войну.

27. ВОЙТАШ – у XУІ-XУП ст.ст. зафіксаванае 287 разоў.
- Войташ Пузовіч, 1541 г. /У.А.75г./
Войтка, Вайцюк, Вайтук, Войтуль, Войтан, Войч, Войціш.

28. ВОЙШАЛК – сын князя Міндоўга, заснавальнік Вялікага княства Літоўскага.
Воясь, Вайшэлак, Вой, Вайшук, Воюш.

29. ВОЛТУШ – Т.
Вольцік, Вольця, Воля, Валюк, Ляхно, Воляш.

30. ВОЛЬСЕЙ – узгадваецца ў XУІ-XУП ст.ст. 11 разоў. /працяг на 14 бачыне/

# З НАШАЕ ПОШТЫ

## ЯК Я СУСТРЭЎ БЕЛАРУСА НАЦЫЯНАЛІСТА.

Першага ліпеня на сьвяце места ў гайніку імя Янкі Купалы каля выстаўкі карцін, прысьвечаных Беларускаму Народнаму Фронту, і фотастэнду са здымкамі з Устаноўчага зьезду БНФ сабралася шмат народу. Вядома, што ў варунках існуючай на Беларусі татальнай цэнзуры, якая перашкаджае зьяўленьню на бачынах беларускага друку любой праўдзівай інфармацыі пра дзейнасьць і мэты Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне", у людзей паўстала багата пытаньняў. Былі тут і людзі, якія маглі й адказвалі на гэтыя пытаньні. Адны зь іх былі арганізатарамі гэтай выставы і былі занятыя перамовамі з "мастацтвазнаўцамі-прафэсіяналамі"– супрацоўнікамі міліцыі. якія патрабавалі зьняць адну з карцінаў. Другія прысланыя, мабыць, сюды пэўнымі установамі з мэтай аслабіць або наогул зьнішчыць уплыў гэтай выставы на сьвядомасьць менчукоў.

Паблізу ад мяне стаяў адзін з апошніх, упэўнены ў сабе, як жалезабетонны слуп. Назваўшыся беларусам, родам з Магілёўшчыны, загадчыкам адзьдзела культуры нявысьветленай установы, ён зацята паўтараў, што на Беларусі ёсьць усе ўмовы для разьвіцьця беларускай мовы і ўсе размовы наконт дзяржаўнасьці не нявартыя ніякай увагі. Людзей навокал яго зьдзіўляла, што ў той час, калі нават Менскі гарком партыі са старонак сваёй шырокавядомай газэты "Вячэрні Мінск" зьвярнуўся з прапановай надаць беларускай мове статус дзяржаўнасьці, яшчэ ёсьць гэткія рэліктавыя загадчыкі адзьдзелаў культуры. Людзі не згаджаліся зь ім і задавалі яму шмат пытаньняў:

–Калі наша родная мова такая прыгожая і так заквітнела за апошнія гады, чаму ёй не карыстаецца Я.Я.Сакалоў?

– Ці ёсьць яшчэ ў сьвеце якія-небудзь краіны, каб яны мелі такую старажытную гісторыю, як Беларусь, дзесяцімільённы народ, сваіх прадстаўнікоў у ААН, а іх урад не размаўляе са сваім народам на роднай мове?

– Дзе можна набыць беларускі лемантар і падручнікі беларускай мовы?

– Чаму ў Менску не дэманструецца ніводнага фільма па-беларуску?

– Чаму ў нашых суседзяў: у Польшчы дзяржаўная мова –– польская, у Літве –– літоўская, а на Беларусі –– небеларуская?

Ані на воднае з пытаньняў гэты чалавек пэўнага адказу ня даў. Ён упэўнена паўтараў, што для кожнага на Беларусі ёсьць усе ўмовы для свабоднага авалодваньня беларускай мовай і што Беларусь асаблівая краіна, а беларусы такі звышрэдкі народ, які ў адрозьненьне ад іншых ня мае патрэбы ў асобнай дзяржаўнай мове.

У рэспубліканскім друку апошнім часам шмат пісалі пра нацыяналізм і экстрэмізм. І вось нарэшце мне пашанцавала на ўласныя вочы пабачыць сапраўднага жывога беларуса-нацыяналіста, бо ён, на маю думку, сьвядома насаджае і культывуе ідэю выключнасьці беларускай нацыі. А я лічу, што беларусы, як усе нармальныя, усе вольныя народы, маюць права і павінны мець дзяржаўнай мовай родную –– беларускую.

Ул.Вярховіч
2.04.89г. Менск

АДЭЛЯ МАРЭЛЯ

x x x

У сутарэньнях сонца не відно,
І не відно сяброўскага аблічча.
Ды кожны крок —
ён да свабоды крок,
Хай вартавыя крокі нашы лічаць,
Мы мурашы падземнага жытла
І робім справу, —

Дабрыдзень!

Сёлета ў ліпені давялося пабываць на вайсковых зборах студэнтаў, якія зьяўляюцца вяршыняй навучаньня на вайсковай катэдры. І вось якія засталіся ўражаньні...

РОЗДУМ НА ЗБОРАХ

Вельмі сумная атрымліваецца рэч, нешта падобнае да калектывізацыі —

толькі для чужыны.
Пазбавілі паветра і цяпла,
Сьвятла, труны, адзеньня, адпачынку...

Пакуль у слабкім целе ёсьць адчай
І спадзяваньне скруху сунімае,
Адчую, як натужна за плячо
Адзін зь пяцёх сяброў мяне трымае.

Ды й сам яму ня дам зваліцца з ног
На дрот калючы нелюдзям на зьдзекі.
Ня ведае іменаў нашых Бог —
Жывем пад нумарамі ў самым пекле.

Агонь вар'яцкі нас паліў —
ня грэў.
Ды прага жыць узмоцнена трохкратна.
Мы захлыску сярмяжную саўем
І ланцугі са сьлёз, крыві й поту.

Каб гэтай карай адплаціць за зьдзек
Праз вёрсты і шляхі ЯГО дастанем,
Каб сьвет пазбавіць ад такіх навек,
Як ненавісны нам таварыш Сталін.

1986г. МЕНСК

x x x

Мы — ня сьведкі.
Мы тыя, хто ў пекла пайшоў,
Дзе мярцьвячынай пахне й гноем.
І жывуць горш за дзікіх і сквапных зьвяроў
Чалавечыя дзеці — ізгоі.

Тэй, хто выдзюжыць сьмерць, будзе богу як брат,
Калі толькі ня служыць ён шэльмам.
На чужую зямлю нас загнаў супарат, —
Дык НА НАШАЙ — хай зьгінуць прышэльцы!

Хто тут дрот працягнуў нашых лёсаў наўсьцяж?
Хто ўладарыць бярэцца над сэрцам?
У грудзёх аддаецца бязьлітасна марш
Супраць зьдзекаў, заганаў і сьмерці.

Дык запейма, сябры, як сьпявалі калісь
Нашы продкі, палюючы зьвера.
Хай нясецца наш покліч у небную высь,
Погань пашчы іклатыя шчэрыць.

Дык запейма, сябры, каб пачулі здалёк,
Забаронены гімн падхапілі.
А ня людзі, дык можа пачуе нас Бог
І ў грамы навародныя грымне!

1986г. МЕНСК

там была магчымасьць выбару: ці калгас, ці Сібір; тое ж самае і ў ВНУ зараз. Ніхто сілком не прымушае студэнта мець пагоны ахвіцэра: ёсьць зноў-такі выбар — ці ахвіцэрскі чын, ці прэч з ВНУ.

Гэта ня гледзячы на тое, што я, напрыклад, адслужыў у войску/маю ўжо вайсковую спэцыяльнасьць/і не жадаю быць ахвіцэрам.

Але ж у мяне ніхто не пытае пра гэта, ніхто не глядзіць, ці здольны я камандаваць. Дзіва дзіўнае: каб быць музыкантам, мастаком ці інжынэрам, трэба мець нейкія здольнасьці, а вось каб быць ахвіцэрам, здольнасьцяў, атрымліваецца, ня трэба.

Што больш за ўсё абражае, дык гэта тое, што вайскоўцам, за рэдкім выключэньнем, нічога нельга сказаць супраць, бо адразу пачынаюцца пагрозы. А пагражаюць выключэньнем, таму адчуваеш сябе ў іх руках запалкай, якую, ёсьць магчымасьць зламіць у любую хвіліну, утаптаць тваю чалавечую годнасьць у гразь.

Ці ж не занадта правоў маюць вайскоўцы ва ўнівэрсытэтах і інстытутах ?

Зь іх боку вельмі моцна адчуваецца дыктат. Трэба хутчэй адзьдзяляць вайскоўцаў ад ВНУ, пазбавіць іх права дыктату, бо ён ніколі ні да чаго добрага не прывядзіў.

А пакуль шкада месяц жыцьця, які я страціў, зацісьнуты ў "хакі", замест таго, каб працаваць у будаўнічым атрадзе.

Яшчэ ў мяне ёсьць некалькі пытаньняў, на якія не магу пакуль знайсьці адказ.

1. Чаму беларуская мова моцна розьніцца зь літоўскай? Беларусь, як вядома, вельмі працяглы час уваходзіла ў Літву, а потым яшчэ й разам з Польшчай у Рэч Паспалітую. У польскай і беларускай мовы ёсьць нейкае падабенства, а вось зь літоўскай... А беларуская мова /дакладней старабеларуская/ была дзяржаўнай калісьці ў Вялікім Княстве Літоўскім. У чым тут рэч ?

2. Травень ці май ? Афіцыйна зараз па-беларуску май, але ж неяк выпадае гэтая назва зь беларускіх назваў месяцаў. На Украіне, напрыклад, травень, а ў нас май. Ці не рэпрэсавалі назву месяца, як граматыку беларускае мовы?

Усяго добрага.
З павагай Завадзкі Уладзімер. /студэнт БДУ, хэмфак/
31 ліпеня 1989 м. Менск

Ад рэдакцыйнае суполкі "Студэнцкае Думкі".

Шаноўны пане Уладзімер !

Зь цікавасьцю прачыталі Вашага ліста і цалкам з Вамі згодныя. У бліжэйшых нумарох "Думкі" мяркуем працягнуць размову на гэты тэмат. Лічым, што пытаньне перабудовы вайсковага навучаньня ў ВНУ мусіць быць адным з найпершых у працы будучае Беларускае Студэнцкае Грамады. Спадзяемся на Вашую шчырую дапамогу.

Што да Вашых пытаньняў, дык даць адказ на іх мы папрасілі філёляга, выкладчыка ВНУ Вінцука Вячорку:

1. Вядома, не без значэньня ў гісторыі мовы ўплыў на яе моваў суседніх. Але сутнасьць мовы, асноўныя рысы яе абліччa вызначаюцца не суседзкімі кантактамі, а паходжаньнем. Беларуская мова належыць да моваў славянскіх, якія польская, чэская, славацкая, сэрбалужыцкія, кашубская, украінская, расейская, сэрбахарвацкая, славенская, македонская, баўгарская, русінская. Гэтыя мовы, як і народы-іх носьбіты, выводзяцца з аднаго праславянскага кораню; некалі існавала агульная праславянская мова і агульная прарадзіма славянаў. Розныя дасьледчыкі зьмяшчаюць яе і на Дунаі, і на Вісьле, і ў Палесьсі. Што ж да літоўскае, дык гэта балцкая мова. Яе бліжэйшыя сваякі — латыская, пруская /мова вынішчанага немцамі народу прусаў/, яцьвяская /мова асыміляваных беларусамі яцьвягаў/ і мовы іншых даўна зьніклых народаў. Балцкія мовы найбліжэйшыя да славянскіх паміж усіх індаэўрапэйскіх /да іх адносяцца славянскія, балцкія, германскія, раманскія, кельцкія, іранскія і іншыя/. Параўнай: RANKA — рука, бегчы — BĖGTI, сядзець — SĖDĖTI, руды — RAUDONAS, зямля — ŽEMĖ і г.д. Між іншым, беларусы як адметны народ сфармаваліся дзякуючы вялікаму ўплыву балцкага субстрату /тых балтаў, што насялялі цяперашнюю Беларусь да прыходу на яе славянаў/. Мяркуюць, што аканьне, дзеканьне-цеканьне, цьвёрдае "р" у нашай мове — ад балцкіх уплываў. Пра сувязі з балтамі сьведчаць сотні балцкіх запазычаньняў: клуня, дзірван, дойлід, апрануць і інш. Тысячы беларусізмаў былі ў літоўскай мове /KVIETKA, CEBULĖ/, але былі заменены на ўласныя словы ў 20-я — 30-я гады.

Казаць, што Беларусь уваходзіла ў Літву, недакладна. Адна са старажытных назваў Беларусі — Літва. Падрабязней пра гэта глядзі: Ермаловіч М. Па сьлядох аднаго міфа. Менск: Навука й тэхніка, 1989г.

2. У беларускіх гаворках — і травень, і май. Травень быў нормай для дваццатых гадоў і вытручаны ў гадох трыццатых.

З НАГОДЫ ДНЯ МОЛАДЗІ

Асабліва жахлівы стан нашае будучае зьмены бачны на ўзгаданае сьвята. Літаральна ўсе прававыя адносіны дзяржавы з моладзьдзю зводзяцца да прымусаў, у прыватнасьці, да вайсковага абавязку. Незразумела, як у варунках агульнай мілітарызацыі яшчэ ёсьць дзе-нідзе сьвядомая моладзь. Усеагульны вайсковы абавязак — адлюстраваньне захаванасьці стану рабаўладаньня ў грамадзтве. Сапраўды, усякая праца ў мірную гадзіну, за якую чалавек не атрымлівае платы, ёсьць рабства. Упэўнены, варункі ўтрыманьня рабоў у старым Рыме й варункі сучаснага жаўнерскага жыцьця ў войску мала чым розьняцца. А тое, што чалавек знаходзіцца ва ўзброеных сілах два гады, ролі не адыгрывае, таму што менавіта ў 18-20 год фармуецца грамадзкая актыўнасьць чалавека, яго сьветапогляд, пераканаьні. Большасьць людзей, што прайшлі вайсковую службу, хворыя на комплекс няпаўнавартасьці. Менавіта праз яго магчымы гвалт і зьдзек зь людзей, што звыкліся з пагардай й зьнявагай чалавечае годнасьці ў войску.

І гінуць студэнты на вайсковых зборах БТІ імя С.М.Кірава, ляцяць мацогі на гаротныя галовы з боку загадчыка катэдры факультэта тэхналёгіі арганічных рэчываў А.І.Ламоткіна, ды ці мала прыкладаў. Людзі ўсё трываюць. Пакуль. Але ўздымаецца голас пратэсту сьвядомага студэнцтва Беларусі супраць агульнага вайсковага абавязку. Ці ня хопіць пакутаў,-гаворым МЫ,- Курапатаў, Афганістану, Чарнобылю.

СТУДЭНТЫ БЕЛАРУСІ !

ЗМАГАЙМАСЯ СУПРОЦЬ МІЛІТАРЫЗМУ Й ВАЕНШЧЫНЫ, ЗРОБІМ БЕЛАРУСЬ БЯЗЬЯДЗЕРНАЙ ЗОНАЙ, СКАСУЕМ АБАВЯЗКОВУЮ ВАЙСКОВУЮ ПАВІННАСЬЦЬ !!!

Аляксей Трусаў, сёлетні выпускнік Беларускага тэхналягічнага інстытуту.

Кантроль

Выданьне ТУТЭЙШЫХ

1989

выпуск 5

КРОНІКА:

*

Зьбіралася Рада Тутэйшых. Пастанавілі зрабіць папраўку ў Статуце, каб тых, якія пайшлі ў Саюз пісьменьнікаў, з Тутэйшых не выганяць. Бо Тутэйшыя для СП не камсамол і ня кузьня кадраў. Тутэйшыя самі сабою.

*

Тутэйшых запрасілі на фэстываль "Эўропа супраць плыні", які будзе ў сярэдзіне верасьня праходзіць у Амстэрдаме. Паедуць 9 чалавек.

*

У лістападзе Тутэйшыя будуць сьвяткаваць гадавіну, як здалі свой альманах у выдавецтва "Мастацкая літаратура". Альманах набраны, але ці зьявіцца да гадавіны -- невядома. Наклад беларускія выдаўцы - нашчадкі Скарыны паставілі 3 тысячы. Ня будзе нават па 100 асобнікаў кожнаму з 35 аўтараў. Ці зьбіраецца наступны альманах Тутэйшых? Укладальнік С.Дубавец сказаў, што цяпер да адбору матар'ялаў ён бы паставіўся больш жорстка, а пакуль яны хочуць выдаць часопіс ці зборнік без цэнзуры і рэдактараў. Я спытаў: хто ж такія малойцы? Сказаў, што ня скажа, што іх ужо каля дзесяці аўтараў, якія пачуваюцца адной суполкай, і што выдаваць ім будзе "дзядзя", бо яны пішуць, што хочуць, і ніхто ім не камандзір. Меркаваны аб'ём -- 4 аркушы, а назва... Вядома ж, "Літаратура".

*

Адзін кадравы беларускі пісьменьнік пад вялікім сакрэтам перадаў нам для публікацыі ліст другога кадравага беларускага пісьменьніка ў ЦК і пры гэтым надта ж хіхікаў. Ня собіць нам корпацца ў гэтых перабудовачных патугах нашых карыфеяў, але ж назваліся на свой клопат "Кантролем"...

Першаму сакратару ЦК КПБ
тав. Сакалову Я.Я.
Членам бюро ЦК КПБ

Праблема роднай мовы ў нашай рэспубліцы набыла надзвычайную вастрыню. Яна стала прадметам глыбокай заклапочанасці творчай інтэлігенцыі, асабліва пісьменнікаў.

Заклапочанасць гэта апраўдана, і людзі, якія выступаюць за адраджэнне статуса беларускай мовы, за пашырэнне сферы яе ўжытку ў дзейнасці ўсіх устаноў, асабліва гуманітарных, асветніцкіх, заслугоўваюць павагі і падтрымкі.

Разам з тым невялічкая частка інтэлігентаў выкарыстоўвае праблему у сваіх карысных дэмагагічных нацыяналістычных мэтах, што выяўляецца ў пісьмовых і вусных выступленнях членаў некаторых нефармальных аб'яднанняў.

Захады, якія зроблены і робяцца ЦК і Урадам рэспублікі, выбіваюць у іх глебу.

Сур'ёзную ўвагу грамадскасці прыцягнула выпрацаваная ідэалагічнай камісіяй ЦК комплексная праграма "Родная мова". Абавязак партыйных арганізацый і кожнага камуніста творча ажыццяўляць гэтую праграму, дапаўняючы яе, углыбляючы, дэталізуючы.

У свой час я наведаў Фінляндыю і Бельгію, цікавіўся вырашэннем нацыянальнага пытання ў гэтых краінах. Вывучыўшы больш дэтальна вопыт іх па літаратуры, я прыйшоў да думкі, што ў нашай сітуацыі было б карысна пераняць адно заканадаўчае палажэнне аб раўнапраўнасці моў. Палажэнне простае, але, здаецца мне, надзвычай эфектыўнае. Сутнасць яго: абавязковае веданне двух моў -- фінскай і шведскай, французскай і фламандскай -- для дзяржаўных служачых усіх рангаў.

Прапаную прыняць Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб абавязковым дасканалым валоданні беларускай і рускай мовамі дзяржаў-

ныміі служачымі ўсіх узроўняў на тэрыторыі рэспублікі. У катэгорыю дзяржаўных служачых уключыць усіх работнікаў усіх саветаў, партыйных, прафсаюзных, камсамольскіх органаў, выкладчыкаў сярэдніх школ, выкладчыкаў гуманітарных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў, работнікаў органаў і ўстаноў асветы і культуры.

Валоданне беларускай і рускай мовамі павінна стаць абавязковай умовай замяшчэння пералічаных спецыяльнай пастановай ЦК КПБ і Савета міністраў пасад. Тэсты па валоданню мовамі павінны ўваходзіць у прафесіянальную атэстацыю работнікаў. Безумоўна, могуць быць пэўныя выключэнні.

Заканадаўча не распаўсюджваць гэтае патрабаванне на навуковых -- не гуманітарных -- работнікаў і інжынерна-тэхнічны персанал прамысловасці і сельскай гаспадаркі, што дасць магчымасць працаваць у шырокай сферы матэрыяльнай вытворчасці прадстаўнікам любой нацыі і народнасці без усялякіх дэскрымінацыйных абмежаванняў.

Не сумняваюся, што такі парадак зняў бы многія моўныя пытанні. Ва ўсялякім разе беларусы не сталі б вызваляць сваіх дзяцей ад вывучэння роднай мовы, бо значная частка гэтых дзяцей павінна будзе заняць пасады ў дзяржаўным, партыйным апараце, ва ўстановах асветы і культуры.

Разумею, што прапанова мая патрабуе дэталёвага вывучэння і шырокага абмеркавання. Але лічу яе канструктыўным укладам у праграму "Родная мова".

Буду ўдзячны, калі мае таварышы па партыі і Цэнтральнаму камітэту аднясуцца да гэтае прапановыз увагай.

01-12,266 — Іван Шамякін, член ЦК КПБ,
16.05.89 — Народны пісьменнік БССР.

На лісце наступныя рэзалюцыі:

т.Печенникову В.А. Прошу совместно с Президиумом Верховного Совета БССР, Совмином республики и другими заинтересованными организациями проработать этот вопрос и внести предложения. Е.Соколов.

т.т.Даниловичу Н.И. Демчуку М.И. Совместно с ПВС БССР рассмотреть, совместив с доработкой программы "Родная мова". В.Печенников.

т.т. Круглею М.М., Каледину Е.А., Стражеву В.И., Масловскому В.И. Савчук Т.Н. Прошу учесть предложение тов. Шамякіна І.П. при разработке программы "Родная мова". Л.Сухнат.

КАНТРОЛЬ: Вось такая кухня -- як гэта робіцца. Не пасьпелі яшчэ адрадзіць тую мову да паўнавартаснага жыцця ва ўсіх сферах, аж народны пісьменьнік -- совесть нации -- ужо прапануе абмежаваць, звузіць, рэглямэнтаваць: каму трэба ведаць мову, а каму зусім неабавязкова. Ён -- за дзьве дзяржаўныя мовы на Беларусі, г.зн, за асінавы кол на магілу мовы беларускай. Ён, як вынікае з агульнага сэнсу ды кантэксту гэтага ліста, найперш заклапочаны лёсам рускай мовы ў БССР. Вось, аказваецца, што трэба ратаваць і берагчы. Урэшце, ён супраць нацыяналістаў! Праўда, без імёнаў. Імёны, відаць, прагучалі ў прыватнай гутарцы...

## МАТАР'ЯЛЫ ДА ТРАСЯНКА-БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНІКА. 2.

адпачываючы--адпачывальнік
Акцябрскі--Рудабелка
альфа--пакост
аптэка--зельня
арамат--водар
бітком--бітма
будучае--будучыня
буквар--лемантар
бюстгальтар--станік
бягучы /год/--гэты
ваеннаслужачы--вайсковец
вывад--выснова
выходзячы /дакумант/--выходны
граніца--мяжа
да--так
дабываючы--здабыўны
даныя--звесткі
Днепр--Дняпро
друг--сябра
дзякуй /нніякі род/--дзякуй /муж.род/
жвачка--жуйка, гумка
займаемы /пост/--займаны
зарад /зброі/--набой

засядацель--лаўнік
існуючы--наяўны
кактэйль--трунак
карабок--пушка
каробка /цукерак/--пушка
кашалёк--вацок
круг /сяброў/--кола
ледзь ці не--ледзь не
май--травень
Маладзечна--Маладэчна
мінулае--мінуўшчына
накапіць /досьвед/--назапасіць
насілле--гвалт
наспеўшы--насьпелы
пагранічнік--памежнік
пасха--Вялікдзень
пацярпеўшы--пацярпелы
пенсіённы--пэнсійны
перапісвацца--ліставацца
прадстаўленьне /цыркавое/--паказ
прыём--прыймо
прыёмная--прыймовы пакой
рад--шэраг
радуга--вясёлка
растлумачэнне--тлумачэньне
ручка /пісаць/--асадка
савок--шуфлік
сасок--смочак
састаў--склад
Светлагорск--Шацілкі
служачы--службовец
сярэдневяковы--сярэднявечны
тыраж--наклад
у адрас--на адрас
уваходзячы /дакумант/--уваходны
узносы--складкі
учот--улік
факел--паходня
флаг--сьцяг
флажок--сьцяжок
Францыск--Францішак
худзець--худнець
хуткасны--сьпешны, хуткі
язычніцтва--паганства

---

Алег Мінкін

## САМОТА

Мне рэжа слых хлусьня прамоў трaскотных,
Мне сьлепіць вочы яркасьць кумача,
Мне ўсё даўно абрыдла, апрача
Маўклівай непрытомнасьці самоты.

І ўсё ж калі б у цішыні дрымотнай
Турыны рог прызыўна загучаў,
І на лязе узьнятага мяча
Запалымнелі водсьветы паходняў,

Я ўсе сумненьні адгарнуў бы разам,
І стаў пад белы сьцяг з чырвоным пасам,
Пад бел-чырвона-белы вольны сьцяг...

Чырвоны пас на белым тле Радзімы,
Ты клічаш нас за волі міг адзіны
Узьняцца і загінуць без разваг.

Гэты санэт Алега Мінкіна Кантроль прапануе ўключыць у школьную праграму.

## МАТАР'ЯЛЫ ДА БЕЛАРУСКАГА ІМЕНЬНІКА

/працяг з 8 бачыны/

Альгерд Пакалюбіч

- Вольсей Хвядзьковіч, 1552г. /Б.А.66г./
гл.Волтуша.

31. ВОЛЬХІМ - у ХУІ-ХУШ ст.ст. зафіксаванае 65 разоў.
- Вольхім Зенюковіч, 1590 г. /Б.А.66г./
Альхім; гл.Волтуша.

32. ВОЛЯН - Андрэй Волян, філосаф ХУІ ст.

33. ВОРША - легендарны беларускі баярын, пэрсанаж паэмы М.Лермантава
Ворця, Варук, Воршуль, Воршань.

34. ВОЎЧАС - Т.; Б.А.66г.
Воўця, Ваўцок, Чашань, Воўк, Ваўчук, Вочат/нь/.

35. ВОЙШ - Б.А.69г. гл.Войну.

36. ВЫШАМІР - Т.
Мірук, Мірча, Міраш, Мір;, гл.Вышаслава.

37. ВЫШАСЛАЎ - легендарны князь.
Славук, Высь, Вышук, Вышань, Выша.

38. ВЯЛЕС - паганскі бог, ахоўнік жывёлы.

39. ВЯЛІК – Т., легендарны гутнік.
Велька, Вялюк, ВялІн, ВелІч, Вельча.

40. ВЯЛЬ – волат, прарадзІмец ракІ ВяльлІ.
гл. ВелІжа.

41. ВЯСЛАЎ – С.С.65г.

42. ВЯЧКА – удзельны полацкІ князь, XIII ст.
Веця, ВецІк, Вячук, Вечань, Веча.

/працяг у наступных нумарох/

## КУПАЛА Й КАТАЛІЦЫЗМ

Кіневіч

/працяг з 5 бачыны/

Высыпе гэты на поле народ
І сеяць будзе сьвянцонае збожжа...
Добры ўраджай, спорны ўмалот
Працавітым людзям пашлі, Божа!
/Перад вясной/

Як і ўсе рамантыкі па натуры, надзвычай тонка адчуў сувязь сваёй душы з Усявышнім. Ён любіў Бога, і любоў гэтая была няпростай і балючай. Яна адмятала недахопы касьцела зямнога і, бывала, абвальвалася з выкрыцьцём, ды гэта быў гнеў, народжаны любоўю, бо ніколі ў Купалы ня было нічога чысьцейшага й вышэйшага, чым любоў да Бога. Вуснамі нашага генія з намі размаўляе Усявышні. Ён заклікае нас любіць адзін аднога, свой край, народ, мову, Беларусь. Ён заклікае ні на хвіліну не забывацца пра чалавечую, адрозную ад жывёльнага сьвету, сутнасьць. Дык будзем любіць і ўхваляць Бога, якога не цураліся, якому служылі лепшыя сыны нашага народу!

Кіневіч

### ДАРОСЛЫМ НЕМАЎЛЯТАМ

"Толькі скнара і лянівы
Не віпісвае "Нівы"",
Не гартае нумар сьвежы
Зь літбачынкай "Белавежа",
Не чытае дзеткам "Зорку",
Ды ня слухае гаворку
Ні пра сёньня, ні пра ўчора,
Але гэта ж, браце, шкода:
Патрыёт свайго народа,
Сьвету цэламу на дзіва,
За градой ня бачыць "Ніву".

Ёсьць такая аксыёма:
Калі гэта Ваш знаёмы,
Калі ўсё, што Вам сьвятое,
Для яго заўжды пустое,
Калі ён бурчыць гугніва,
Ледзь пачуўшы слова "Ніва",
То такога, аж да веку,
Нельга клікаць чалавекам!

Сяржук Сокалаў-Воюш

## *Пакуль ня позна...*

Шаноўныя сябры!

Рэдакцыя "Студэнцкае Думкі" раіць Вам, пакуль ня позна /апошні тэрмін 31 жніўня/, падпісацца на тыднёвік "Ніва", які выдаецца на беларускай мове ў Беластоку/Польшча/ Беларускім грамадзка-культурным таварыствам. Зьмешчаны побач верш Сяржука Сокалава-Воюша — найлепшая рэкляма "Ніве". Але ад сябе дадамо, што выпісваць "Ніву" трэба, зыходзячы з наступных меркаваньняў:
а/ каб ведаць, як жывуць беларусы ў Польшчы;
б/ каб ведаць гісторыю Беларусі;
в/ каб вучыцца жывой, незбюракратызаванай беларускай мове /якой так не стае выданьням у БССР/;
г/ каб ведаць, як жывуць беларусы на эміграцыі ў Ангельшчыне, Амэрыцы, Канадзе і г.д.;
д/ і гэтак далей — ад сэксу да кухарскіх парадаў.

Нагадваем Вам выходныя зьвесткі: падпісны інд.- 36911, кошт на год - 10,40р. Аформіць падпіску можна ў любым адзьдзяленьні сувязі ці"Саюздруку".

*

Паведамляем, што хрысьціянскі эвангельскі сьвятар Эрнэст Сабіла адпраўляе набажэнства за беларускі народ кожную першую сераду месяца а 19-й гадзіне па адрасе: Менск, вул. Заслаўская, д. 13, кв. 14. Тэл. 23-21-18 — хатні. На набажэнства запрашаецца кожны шчыры беларус і сябра беларушчыны.

*

Калі Вы жадаеце выпісаць альбо працягнуць падпіску на газэты "Возрождение", "Согласие" Літоўскага руху за перабудову "SAJŪDIS" /на расейскай мове/ раім унесьці 5 рублёў у ашчадную касу № 6762/028 места Вільні на рахунак № 22470

 Зайкаускасу Віталюсу Пятро. Цэтлік разам з адрасам падпісчыка дасланць у штаб **"SAJŪDZIO"** на адрас: 232001, места Вільня, праспэкт Г д міна І, Зайкаускасу Віталюсу.

УВАГА ! УВАГА ! УВАГА ! УВАГА ! УВАГА ! УВАГА !

БЕЛАРУСКІЯ ПАТРЫЁТЫ ! АМАТАРЫ КРАЯЗНАЎСТВА !

"Студэнцкая Думка" зьвяртаецца да Вас з заклікам: УРАТУЙМА ПОМНІКІ БЕЛАРУСКАЕ СТАРАСЬВЕЧЧЫНЫ !

Усе мы мусім спрычыніцца да гэтае сьвятое справы. Першым крокам прапануем кампанію складаньня актаў стратаў аўтэнтычнага выгляду помніка. Плян складаньня гэткіх актаў падаем ніжэй. Складзеныя акты трэба кіраваць на адрас Беларускага Фонду Культуры: 220030, м.Менск, вул. Я.Купалы, д. 17/30, краязнаўчай камісыі БФК.

БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРЫ
КАТАЛЁГ СТРАЧАНЫХ ПОМНІКАЎ КУЛЬТУРЫ

АКТ
СТРАТАЎ АЎТЭНТЫЧНАГА ВЫГЛЯДУ ПОМНІКА

1. Адрас аб'екта /сучасны/
2. Назва аб'екта
3. Характарыстыка аб'екта /сьціслая гістарычная даведка: час пабудовы, стыль, фундатар, аб'ёмная характарыстыка і падобнае/
4. Дата страты аўтэнтычнага выгляду помніка
5. Прычыны перабудовы /рамонт пасьля пашкоджаньняў, зьмена стылю/
6. Мэта перабудовы /прыстасаваньне будынка пад новыя чыннасьці/
7. Ініцыятар перабудовы /асоба ці ўстанова ды прозьвішча кіраўніка/
8. Аўтар праекту перабудовы /асоба ці калектыў, адрас арганізацыі/
9. Выканаўца перабудовы /асоба ці арганізацыя ды прозьвішча кіраўніка/
10. Дзе знаходзіцца праектная дакумэнтацыя
11. Ступень стратаў
ДАДАТАК: фотаздымкі, рысункі* ды іншыя матар'ялы
12. Крыніца інфармацыі /архіў, літаратура, прыватная асоба і т.д./

АКТ складзены /дата, прозьвішчы асобы ці групы людзей/

*чарцяжы

УВАГА! УВАГА! УВАГА! УВАГА! УВАГА! УВАГА! УВАГА! УВАГА! УВАГА!

Рэдакцыйная суполка зьвяртаецца да шаноўных чытачоў нашае часапісі са шчырай просьбаю дасылаць матар'ялы характару культурна-грамадзкага, эканамічнага, экалягічнага, навуковага, літаратурна-мастацкага, гумарыстычнага, абвесткі й г.д.

Наш адрас: Беларусь, 220100, места Менск, вул. М. Горкага, д. 143, кв. 65, Гуркову Алесю. Тэл. 34-42-78 - хатні.

Нумар падрыхтавалі: Сотнікаў Сяржук, Сабаленка Алесь, Барвенава Ганна, . хтарня Ігар/мастак/, Гуркоў Алесь.



Апрацоўка нумара закончана ў сярэдзіне жніўня 1989г. Перадрук дазваляецца толькі са спасылкай на крыніцу. Нумар падрыхтаваны рэдакцыяй у двух асобніках; радзім усім сябрам нашае часапісі перад масавым памнажэньнем выданьня асабліва ўважліва азнаёміцца з указам Прэзыдыюма Вярхоўнае Рады Беларусі нядаўна зацьверджаным на сэсіі Вярхоўнае Рады. Гэта значыць па ведамляць дзе друкуецца, якім накладам, на якой паперы і т.д.